# ЧАСОПІСЬ

№ 1 (5).
СТУДЗЕНЬ,
1920.

## БЕЛАРУСКІ ГРАМАДЗКА - ПАЛІТЫЧНЫ, ЛІТЭРАТУРНЫ і НАВУЧНА-ГІСТАРЫЧНЫ ШТОМЕСЯЧНІК з ІЛЮСТРАЦЫЯМІ.




Беларускі патрыот XVI сталецьця
**ВАСІЛЬ ЦЯПІНСКІ.**
Перэкладчык і друкар Бібліі на беларускай мове каля 1580 г.
Малюнак ўзяты з тагочасных выданьняў.

Кошт N-ру 3 залатых
2-гі год выданьня.




## ...ЬМЕСТ № 1 (5) „ЧАСОПІСІ“:



...праф. В. Л. Іваноўскі, Людвік Нарэйко, д-р Э. Драўгеліс, палкоўнік В. П. Антонаў, С. А. Рак...ятукас, А. Х. Краўль, П. С. Леонас.

**...товы № 2 (6) „Часопісі“ выйдзе ў канцы лютага.**

### РЭДАКЦЫЯ ВЫДАНЬНЯЎ „Таварыства імя Ф. Скарыны.“

### ...ЛІСТ ДА БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ДЗЕЯЧОЎ.

Бягучы на запытанья беларускай інтэлігенцыі і прімушаныя ўзростам нашага бацькаўскага друкаванага слова, мы пачалі сьпешна шыкаваць да выданья, паміж іншым, першы БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЛОЎНІК, які павінен будзе абняць ўвесь пэрыад нашай культурна-нацыянальнай і палітычнай працы, пачынаючы ад самых старых часоў, славу якіх чыніць полацкі доктар вышэйшых навук Францішк-Юры Скарына.

Выходзячы з гэтага, Рэдакцыя выданьняў „Таварыства імя Ф. Скарыны“ зварочваецца да Вас, Грамадзяне,—не адмовіць у надсылцы на адрэс Таварыства сваіх-аўтабіаграфіі і фатаграфіі, а калі ў гэтым сустрэнуцца якія перашкоды, то не адмовіць ў адказах на гэтакія запытанья:

1) Мейсцэ, год, месяц і дзень — дзе і калі Вы радзіліся?

2) Якую маеце адукацыю і якое заняцьце Вам болей па сабе?

3) Калі выступілі на працу на нашай нацыянальнай ніве (культурна—прасьветнай, мастацкай, навуковай, выдавецкай, літэратурнай, палітычнай і т. д.)?

4) Калі ёсьць у Вас свае творы, то якія з іх надрукаваны і дзе,—чы была дзе аб іх крытыка, што Вы шыкуеце да друку?

5) З якімі грамадзкімі групамі зьвязаны ў Вас выдатнейшыя часы Вашай нацыянальнай працы і якія момэнты Вашага жыцьця Вы лічыце для сябе найпрыемнейшымі?

6) Якія выдатнейшыя асобы з беларускага нацыянальнага руху, чы, наагул, хто меў на Вас рэшучы ўплыў, якому Вы ўдзячны?

7) Калі (дзень, месяц і год) Вы першы раз выступілі на літэратурнай, чы грамадзкай ніве?

Замест фатаграфіі—можна паслаць нам і малюнак з Вас алавіком, чы копію з яго,—але адно з іх вельмі патрэбна дзеля таго, што ў СЛОЎНІКУ — пры кожнай аўта—, чы біяграфіі будзе памешчэн і партрэт асобы.

Ўсе матэрыялы просімо пасылаць (не пазьней, як да 15 травеня 1920 г.) на адрэс: Коўна. Вуліца Адама Міцкевіча, 13 а. „Часопісь“.

Чэкаючы адповедзі, загадзя дзякуець
РЭДАКЦЫЯ ВЫДАНЬНЯЎ
**„Таварыства імя Ф. Скарыны“.**

**КОЎНА.** СТУДЗЕНЬ, 1920 году. 2-гі ГОД ВЫДАНЬНЯ. **№ 1 (5).**

# ЧАСОПІСЬ

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ, ЛІТЭРАТУРНЫ І НАВУЧНА-ГІСТАРЫЧНЫ ШТОМЕСЯЧНІК З ІЛЮСТРАЦЫЯМІ.

## ВЕРШЫ ЗМІТРУКА БЯДУЛІ.

### Ваяцкая песьня.

Пара, пара! Сядлай каня!
Хутчэй у бой, у бой!
Гарыць мой конь, як той агонь,—
Разлучымся з табой.

*

Падай мне меч, паеду ў сеч.
Няма калі чэкаць.
Пара, пара! Сядлай каня!
Няма калі кахаць.

*

Вось сталь зьвініць, зямля дрыжыць,—
Мой конь нясець мяне.
Хутчэй з жуды, хутчэй з бяды,
Я бытцам у ва сьне...

*

Дзіця палёў, дзіця лугоў,
Каханая мая!
Ой, ня сумуй, ой ня бядуй,
Як згіну ў полі я.

*

Вітай, вітай, курган і гай!
Я можа не вярнусь...
Мой конь сьпяшыць, трэ' бараніць
Сьвятую Беларусь!..

———o———

### Беларускі ваяка.

Беларускі ваяка наперад ідзі,
Выпрастай свае грудзі і плечы!
З ночнай цемры да сонца народ
свой вядзі,
За свой край сьмела бія у сечы!

*



ЗМІТРОК БЯДУЛЯ
(ЯСАКАР).

Адзін з навейшых беларускіх пісьменнікаў, а па пладавітасьці першы. Паходзіць з Ашмяншчыны, сын дробнага гандляра, здрадзіўшы бацькавай прафэсыі дзеля развіцьця беларускай літэратуры.

У 1914 гаду выйшла яго кніжка апаведаньняў „Абразкі“, а ў 1918 гаду знаменіты нарыс „Жыды на Беларусі“; хутка выходзіць першы том яго вершаў.

*

Вырывай сваю волю з сталёвых зубоў,
У зьняволяным, змучаным краі:
Там, дзе плача нешчасны-пад ценьню
дубоў
Хай шчасьлівы ратай засьпявае!

*

Гэй, ачніся, цар-волат пакутнай зямлі,
Пакажы на ўвесь сьвет сваю сілу;
За чужых беларусы пад кулі ішлі,
За чужых сабе рылі магілы!

*

Гэй, ачніся, цар-волат, чэкае народ,—
Час настаў і сябе бараніці,
Бо прайшло шмат вякоў, бо мінула
шмат год:
Пад ярмом ты быў змушаны жыці!

*

Стань на варце і родныя межы пільнуй,
Барані свой звычай і абліччо,
Сабе славу і гонар хоць раз заваюй;
Ўвесь гаротны народ цябе кліча!

*

Пад дзядоўскім курганам з мячом
прысягні
За унукаву долю змагацца.
Ты здабудзь для сябе сьветазарныя
дні,
Ўладаром ты будзь сам сваёй
працы.

*

Бо ты знойдзеш тады супакой у сябе,
Як варожы навал, пераможэш;
Толькі ў дужай, адважнай, сьвятой
барацьбе
Збудаваці гасподу ты зможэш!..

## ВЯЛІКІ ПАТРЫОТ-ВАСІЛЬ ЦЯПІНСКІ.

Шкіц. *)

У XVI сталецьці Беларусь перэжывала разам з Заходняй Эўропай рэфармацыю. Тагочасныя беларускія вышэйшыя станы: князі і вяльможныя магнаты, ездзячы заграніцу дзеля асьветы і „полероўнасьці“ прывазілі адтуль навінкі. Навінкамі звалі тады новыя думкі аб веры, новыя сэкты. І ўсё бліскучае панства: і паны рады каралеўскія-сэнатары, і князі, і баяры займаліся пазнаньнем Пісьма Сьвятога і тварэньнем новых вер. На сэймах і зьездах болей гаварылі аб навуцы Кальвіна і Лютэра, чым аб патрэбах абароны краёвай і патрэбах дзяржаўных.

Мала гэтага: ўвёсь наш грамадзкі верх раздзяліуся на „грэкаў“, „рымлян“, „кальвіністаў“ і іншых, — ды затрачываў пачуцьцё народнай суцэльнасьці і еднасьці. У аднэй сямьі бывала па тры веры: дзед — „грэк“, сын — „кальвініст“, ўнук — „каталік“. Адным словам, тварылася ў нас рожнаверцаў непамярна многа, ды непамерна заўзятых адны проці другіх, і кожны цягнуў супольную айчыну ў свой бок.

У гэткія сумныя часы, ў глухім закутку Полаччыны, скромны шляхціц, але гарачы парыот - Васіль Цяпінскі, „бачучы упадак айчыны мілай“, балеў душой над гэтым. А найболей над тым, што князі, баяры і шляхта, гонючыся за загранічнымі навінкамі, адыходзілі ад роднага народу, родных звычаёў і мовы. Балеў таму, што гэта вяло яго мілую айчыну да упадку, да цялеснага і духовага рабства, да шуканьня бацькаўшчыны за межамі сваёй староны.

І Цяпінскі саматугам задумаў зрабіць вялікую справу: выдаць Пісьмо Святое добрай беларускай мовай, каб, чытаючы Слова Божае ў роднай мове, сэрцы адпаўшых сыноў зьвярталіся да роднага народу і ў злучнасьці з ім будавалі, а не руйнавалі, сваю айчыну. З чытаньнем Пісьма Святога ў роднай мове Цяпінскі звязываў вялікае значэньне. З гэтымі думкамі перакладае ён на нова, на беларускую мову Біблію і пачынае друкаваць яе у сваёй „убогай друкарні“. Перэклад і друкаваньне Бібліі было, само сабой, не пад сілу аднаму чалавеку. І, мабыць, сьмерць спыніла яго багамілую работу, бо да нас дайшла толькі частка Бібліі Васіля Цяпінскага.

Да Бібліі сваёй Цяпінскі напісаў прадмову. У прадмове ён сердэчнымі словамі апаведае, што яго прымусіла ўзяцца за працу і, як, па яго думцы, трэба ратаваць мілую айчыну.

Перш наперш, каб ўнікнуць разбіцьця народу беларускага, Цяпінскі просіць тагочасных паноў „трымацися языка свайго прырожонаго“, ды каб яны вучыліся граматы беларускай, закладалі школы беларускія для народу, дзела міласьці да айчыны нашай, дзеля таго, што народ гэты „неумеетны і утраплены“...

Калі, - казаў Цяпінскі, — ў вас яшчэ да народу гэтага засталося колькі-небудзь улітаваньня, закладайце школы для яго, але не такія, як цяпер . . . на вечны ўстыд у чужой мове, а ў сваёй „роднай“ (беларускай) мове, абы айчына ваша да канца ня згінула і вы з ёю, бо калі праз ваш ратунак яна будзе выдзвігнена, — і вы з ёй разам выдзвігнены будзеце!— . . .

І духавенство маліў Цяпінскі, каб „дзеля вечнай заплаты сабе ад Бога і дзеля баязьні Суда справядлівага Божага“ навучала народ беларускі ў мове яго „прырожонай“.

А што далей было?

А далей сталася тое, што правідзеў Цяпінскі: ад раздзелу на веры, панства беларускае перайшло да раздзелу на народнасьці, варагавала між сабою, а народ застаўся ў занедбаньні—„нічыёй уласнасьцю“, каторую ўсякі можэ сабе прысвоіць . . .

А што з айчыной?

Айчына беларуская для многіх сыноў яе сталася чужыною, бо вочы іх адвернуты ў іншы, чужы бок!...

**В. Л—скі.**

*) Малюнак глядзі на I стр. вокладкі.

# БЕЛАРУСКІ РУХ

**ад 1919 да 1920 году.**

Кароткі агляд.

(Канец).

V. *)

Дзеля болей яснага агляду ўсёй беларускай справы за апісываемы час, патрэбна яшчэ адмеціць жыцьцё беларусоў пад бальшэвіцкім, а потым і польскім панаваньнем у той час, калі беларускія дзеячы рабілі справу ў Літве і загранiцай. Раней было сказано, што колькі беларускіх „палітыкаў“ перэйшло на польскую арыентацыю, гэта ў тым сэнсі, што „толькі Польшча можэ адбудаваць Беларусь“, с кім толькі і трэба быць беларусам у хаўрусе; з другога боку так сама колькі адшчэпенцаў прытулілася і да бальшевікоў „Савецкай Расеі“, хаўрус з якой нёс ўсе зямныя дары беларускаму „народу“. За час быцьця немцаў у Менску, „беларускія бальшэвікі“ працавалі ў Смаленску, але дзеля таго, што яны не маглі там разьвіць значнай палітычнай работы, маючы ў сваім распараджэньні вельмі невялічкую часьць Беларусі, яны пастараліся зрабіць свае „каінава дзела“ пасьля выхаду немцаў з Менску, а, ласьне,-ў студзеню 1919 году.

Патрэбна тут зьвярнуць увагу на тое, што да гэтай пары бальшэвікі абражалі і высьмеівалі ня толькі тэрміны „Беларуская Рэспубліка“, „Незалежная Беларуская Рэспубліка“, але і самую назву „беларус“; быўшы раней да немцаў урад іх у цэнтру Беларусі—ў Менску называў сябе не іначэй, як Народным Камісарыятам Заходняй Вобласьці і Фронту. Цяпер жа, апіраючыся ня толькі на „беларускіх бальшэвікоў“, але і прыймаючы пад увагу тую працу, якую зрабіла ў нямецкай акупацыі Рада 1-га Ўсебеларускага Зьезду, а затым і Рада Рэспублікі, маскоўскія бальшэвікі, хлынуўшыя ў Менск, абьявілі там асобым маніфэстам „Незалежную Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку“. Ясна, што гэты крок быў пабудован на старым езуіцкім законе: для дасягненьня мэты-ўсё мажліва! Бальшэвікі прыцягнулі да сябе патребныя ім грамадзкія і палітычныя групы, скарысталі іх для ўзмацаваньня сваёй ўлады, а потым адкінулі ад сябе ня толькі шчырых беларусоў, але і беларусоў-бальшэвікоў: усю справу ўзялі ў свае лапы маскоўцы, армяне, палякі і жыдоўскія адшчэпенцы, прыкрыўшы сябе вышэйпрапісаным беларускім імем.

У хуткім часе, тое самае было зроблена і ў Вільні, дзе была абьяўлена адоноса да літоўцаў такая жэ Літоўская Рэспубліка. Затым, так як бы перэчытаўшы старыя белрускія газэты і праклямацыі, бальшэвікі абьеднаді абедзьве Рэспублікі ў адну пад імем Літоўска-Беларускай і стварылі адзін урад, галавой якога пасадзілі для большэй бэзпэкі бальшэвіка-літвіна. Праца гэтага „Рабоча-Селянскага Ўраду“ выразілася ў выданьні колькіх праклямацыяй, адозваў, двух-трох кніг на беларускай мове, а што самае цікавае-, ў адданьні пад суд, надзору надзвычаяк, высылцы, чы проста зачыненью ў астрог многіх беларускіх нацыянальных дзеячоў, часьць якіх, у момэнт падходу палякоў да Менску ў летку 1919 году, бальшэвікі вывезьлі, як закладнікаў, у смаленскія і маскоўскія турмы.



Прафэсар
**В. Л. ІВАНОЎСКІ.**
Адзін з выдатнейшых беларускіх нацыянальных дзеячоў часоў 1905—1915 г.г. Старшыня Вадавецкага Таварыства „Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ“, знаўца сельскай гаспадаркі і доктар хіміі. Пры надыходзе палякоў у Менск быў вывезены камуністамі ў Смаленск, як закладнік; цяпер обменены вярнуўся зноў на бацькаўшчыну.

Выцягіваючы сабе найбольш карысьці за прапаганду назвы Беларускай Савецкай Рэспублікі, бальшэвікі арганізавалі на фронці з палякамі і беларускія чырвоныя палкі. Значэньне іх, гэтай „беларускай аружнай сілы“ дзеля беларусоў было ў тым, што ў бальшэвіцка-польскай вайне біліся, пралівалі кроў і гінулі не карэнныя палякі і маскоўцы , а беларусы з абедвёх старон, таму што і ў польскіх войсках паны арганізавалі на гэтым фронці ашуканствам так тама „свае“ беларускія дывізыі.

З гэтага відаць, што, як тыя, так і другія паставілі сабе мэтай выкарэняць не толькі беларускі нацыяналны рух, а і беларускую чалавечую сілу.

*) Пачатак глядзі ў № 3—4 „Часопісі“.

Пасьля ж заняцьця Менску палякамі, бальшэвікі йзноў перэнесьлі свой „Беларуска-Літоўскі Урад“ у Смаленск, дзе ён такі і змарнеў у барацьбе з антынацыянальнымі элемэнтамі, якія не сцярпелі навэт гэтай намінальнай непашаны да „Савецкай Расеі“.

Калі войскі Язэпа Пілсуцкага распачалі сваю гаспадарку ў межах большай часьці Беларусі, Беларускі Урад, працаваўшы да гэтай пары заграніцай, прабаваў націснуць на палякоў праз Антанту ў тым сэнсі, каб перэняць ад акупантаў хоць бы цывільную уладу ў краі. Гэта проба патрэбных вынікаў не дала. Тым часам невялічкая кучка асоб пачала ужэ афіцыяльна туліцца да Пілсуцкага і, ад імя нібыто адпаведных беларускіх груп, дарвалася да арганізацыі беларускіх вайсковых частак у польскай арміі, па прыкладу істнуючых беларускіх войскаў у Літве. Благаславіўшы гэту справу, „сам“ Пілсуцкі даў сваю згоду на скліканьне распушчэнай у лістападзі 1918 году пры надыходзе бальшэвікоў - Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта палітыка нажаль запаліла надзеі на мажлівы усьпех беларускай справы ў раёні польскай акупацыі навэт у непрымірымых ворагаў палякоў.

Рада Рэспублікі была склікана 12 лістапада 1919 году, на які дзень зьехалася ў Менск многа беларускіх палітыкаў. Спачатку нішто здаецца не гаварыла аб благім канцы. Рада ўзмацоўвала свае пазыцыі, — але з палякамі гаварыла не надта. Важнейшыя пастановы адцягіваліся. Палякі цешыліся, што Рада іх не лае, пашыралі далей сваю акупацыю і, затаіўшы дух, чэкалі ад Рады Граматы аб уніі з Польшчай, чы правідловей, пацьвержэньня . . . старой Гарадэльскай Уніі. У гэтай надзеі Рада то і была склікана! Але замест гэтага, беларусы перэвыбралі Прэзыдыум Рады, зьменілі Раду Міністраў адпаведна да голасу партыяў і вынесьлі энэргічны пратэст проці польскага гаспадарэньня ў краі. Тут то палякі і зьнялі маску з свайго твару, абвесьцілі Раду распушчэнай, як установу, якая пажадала рабіць дзяржаўную працу, „немаючы на гэта законнага права“. Між тым, як год таму назад, калі Рада прыгатаўлялася прыняць уладу ў краі (пасьля прыняцьця „Статуту 9 кастрычніка“), увайшоўшыя ў Раду ад польскіх груп віднейшыя прэдстаўнікі палякоў на Беларусі (ўсе юрысты, адзін навэт сучасный Старшыня Менскага Вакружнага Суду), тады Рада мела на гэта законае права, аб чым палякі вельмі гаманілі!....

Роспускам Рады помста палякоў неўдзячным беларусам не акресьлілася: часьць новага Беларускага Ураду і Прэзыдыуму Рады-яны пасадзілі ў турму. Уцэлеўшыя ад гэтага польскага разгрому беларускія дзеячы ўцяклі з Менску і рожнымі дарогамі прабраліся йзноў заграніцу.

На мейсцэ распушчэнай, а па іх словам - скасаванай Рады Рэспублікі, польскія урадвікі утварылі новую „Найвышэйшую Раду“, якая стала навэт падтрымліваць скінуты Радай Рэспублікі і мусіць вельмі салодкі для палякоў стары Урад.

Аднак уцёкшыя з Менску кіраўнікі Рады Рэспублікі і новага Ураду гэту новую авантуру хутка спынілі і „найвышэйшыя беларусы“ падаліся „ў адстаўку“.



**ЛЮДВІК НАРЭЙКО,**
Міністэр Справядлівасьці
і Член Дзержаўнай Рады
(часово замешчаўшы Старшыню Рады Міністраў у студзеню 1920 г).

Радзіўся у 1884 г. на Жмудзі ў Кальварыйшчыне; ў 1908 гаду скончыў Петраградцкую Духоўную Рымска-Каталіцкую Акадэмію, а ў 1915 гаду Петраградцкі Унівэрсытэт.
Лічыцца лепшым стылістам ў літоўскай мове; вядомы, як супрацоўнік газэт „Viltis“, „Vairas“, рэдактар „Lietuvių Balsas“ і інш.

Расхвалены праект арганізацыі беларускіх частак у польскаі арміі, атрымаўшы высокую згоду Начальніка Речы Польскай Паспалітай і распаўсюжэны яшче ў восень 1919 году, да студзеня 1920 году не даў ні воднага салдата, ні воднага беларускага штыка.

Беларуская дзяржаўная справа йзноў перайшла не бежэнскае палажэньне. Асобна яна разьвілася ў гэты момэнт у Літве, дзе зьяўляецца часткай абьеднанай беларуска-літоўскай справы. Нежалежна ад гэтага, самастойная беларуская акцыя на падставі дабрасусецкіх адносін моцна пашырылася ў Латвіі,

Эстоніі, Фінляндыі, Чэхіі і пры Украінскім Урадзе.

VI.

У заключэньне агляду ўсяго пэрыаду беларускага руху ад пачатку 1917 году, патрэбна зьвярнуць увагу і на рожныя вінавачэньня беларусоў у іх нешчырасьці і на спробы знайсьці ў грунце беларускага руху нямецкія, польскія, альбо якія іншыя грошы.

Што датыча першага, то ў свой час, як мы бачылі, немцы падавалі вялікія надзеі ў дапамозе адраджэньню беларускае культуры і распаўсюжэньню беларускага руху. Не можна ўпусьціць з вока таго факту, што фэльдмаршал Гіндэнбург першы-ў пачатку 1916 году асобным расказам абьявіў беларускую мову ў старой акупацыі мовай раўнапраўнай іншым мовам у краі: літоўскай, жыдоўскай і польскай. Праўда, не ў інтэрэсах імпэратарскага гэнерала было называць у той, чы іншай часьці акупацыі переважываючай мовай (чы па нашаму дзяржаўнай) беларускую, чы літоўскую. Але, апроч таго, што пры немцах на беларускай мове друкаваліся адозвы, пашпарты, падтрымліваліся беларускія школы, школьныя выдавецтва, і то ўсё ў вельмі незначных, адносна да іншых, размерах, больш мы учасцьця нямецкай грашавой дапамогі беларускай справе не знайходзім.

Што датыча польскай дапамогі беларускай справе, то да канца 1919 году ніхто з беларусоў гэтага нідзе ні чуў, ні бачыу. Расейскія русыфікатары лаялі беларускіх дзеячоў за тое, што яны твораць элемэнт перэходны да палякоў, што яны „польскія найміты“ і так далей, але ў той самы час палякі ўсюды выступалі проці таго, каб ніякім спосабам не ўводзіць беларускай мовы ў касьцеле, бо гэта ёсьць перэход да маскалёў і схызматыкаў. Такім чынам і з аднаго і з другога боку беларускую справу залічалі, то да польскай, то да маскоўскай інтрыгі, але фактычна ні адна з гэтых старон справе не дапамагала. Зразумела, трэба было, разьбіраючыся ў самой справе беларускага адражэньня, чэкаць помачы беларусам ад польскіх землеўласьнікаў на Беларусі, якія ўладаюць і многамільённымі фундушамі і паходзяць ад беларускіх вяльмож. Аднак ўсім добра ведама, якімі жэбракамі жылі апошняе дваццацілецьце беларускія дзеячы ў Вільні, Менску, Беластоку, Пецярбурзі, Маскве, Кіеві, як дрэнна і неакуратна выходзілі беларускія часопісі, колькі беларускіх дзеячоў за гэты час памёрла ад сухотаў, поўгалоднага жыцьця і немажлівасьці акуратна палуднаваць, ня то, што лячыцца. Гдзе-ж тут грунт для вінавачэньня беларусоў у той чы іншай апоры на суседзяў?

Беларуская справа за гэты час расла, шырылася і цьвіла сама сабою, стыхійна, таму, што істотаю яе быў, ёсьць і будзе сам беларускі народ, яго адвечнае істнаваньне, сіла яго адражэньня, багаты скарб яго мінуўшчыны.

Так было да апошніх месяцаў 1919 году, гэта значыць, да таго часу, калі пасьля развалу адной магутнай славянскай дзяржавы на усходзі, паднялася другая; пасьля занепаду Расеі пачала ўзмацоўвацца на касьцёх ахвяр апошніх пяці гадоў—Рэч Паспалітая Польская.

Калі да гэтага часу і былі якія выпадкі непаразуменьня паміж самымі беларускімі дзеячамі ў нацыянальна-сьвядомых беларускіх арганізацыях на грунце западазрэньня той чы іншай адзінкі ў значнай



**Д-р Э. ДРАЎГЕЛІС.**
Міністэр Ўнутрэнных Спраў і Член Дзержаўнай Рады.
Радзіўся ў 1888 году ў Вількавішчыне, скончыў мэдычны аддзел Маскоўскага Ўнівэрсытэту; літоўскі пісьменнік. Міністэрскую працу пачаў з сучаснага V-га Габінэту Э. Гальваноўскага.

прыхільнасьці да палякоў, то на гэта вялікай увагі не зьвярталася і гэта не тварыла разлому. Ведама, што беларускую справу тварылі, як інтэлігэнты з народу, так і інтэлігэнты з польскай, чы расейскай культурай і дзеля гэтага той, хто не адразу шчыра выказываў сябе ў беларускай справе, мог навалачы на сябе вінавачэньне ў польскай, чы расейскай арыентацыі.

Больш непрыемней сталі адзначацца нікаторыя беларусы ў польской арыентацыі тады, калі нацыянальная справа стала справай палітычнай, а яшчэ больш, калі сіла польскіх войскаў перэмагла сілу расейска-бальшэвіцкай навальніцы. Ганебны росквіт польскай справы вельмі дрэнна адазваўся на ні-

каторых беларускіх дзеячах: асабліва з вялікім жалем гэта трэба падкрэсьліць адносна да тых дзеячоў, якія да гэтага часу мелі за собою вялікі стаж у 15—20 гадоў нацыянальнай работы. Звычайных авантурнікаў, якія пайшлі ў найміты да палякоў, ніхто з беларусоў шкадаваць не можэ.

І вось гэта апошняе і давяло да таго, што сярод беларускіх нацыянальна-палітычных кіраўнікоў зрабіўся ў студзеню 1919 году надлом, ад чаго ясна адзначылася та невялічная кучка людзей, якая „упала да ног" польскага магната, як збаўцы беларускага народу ад занепаду, і ўмешала польскія грошы ў беларускую справу. Разумееца, 99 % беларускага грамадзянства з палякамі не пайшла!

Каб дакончыць наш агляд, зьвернем нарэшці яшчэ увагу на тую галіну культурнай працы на Беларусі, якая абыймае сабою выдавецкую работу, справы друкаў і распаўсюджэньне голасу грамадзянства.

Аб агульна-выдавецкай працы ў раёні польскай акупацыі гаварыць многа не трэба: гэта справа стаіць у вельмі цяжкім палажэньні. Выдаваць часопісі і пабеларуску зьявілася можнасьць толькі пасьля заняцьця легіонамі Менску і то не хутка. Ў восень 1919 году пачала выдавацца ў Менску палёнафільская вестка—„Звон", якая за ўдыганьне перэд Начальнікам Польскага Панства, не спадабалася навэт бліжэйшым прыяцелям кіраўнікоў яе. Праз нейкі час гэту вестку зачынілі самы выдаўцы і пачалі выпускаць другую штодзённую газэту—„Бела-



**С. А. РАК - МІХАЙЛОЎСКІ.**

Вядомы беларускі палітычны дзеяч, былы Старшыня Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады, сучасны кіраўнік Школьнай Рады Меншчыны. Два гады таму назад, не гледзячы на забарону бальшэвікоў, прабраўся на Берэсьцейскую Канфэрэнцыю ад Рады 1-шага Ўсебеларускага Зьезду з пратэстам проці ганебнага дзеля Беларусі міру.

# Беларускі пісьменнік Александар Ельскі.

(Да гісторыі беларускай літэратуры).

На мяжы пачатковага і новага пэрыаду беларускай літэратуры трэба паставіць аднаго пісьменніка, каторы традыцыі Д.-Марцінкевіча і яго сучаснікаў хаваў у сабе на працягу дваццацігадовага перарыву беларускага поэтыцкага слова і потым, часткаю ў старой формі—з народна-романтыцкай ваблівасьцью і ідэаламі, стараўся перэдаць іх нова-утворанай літэратуры. Маю на ўвазе менскага землеўласьніка (хв. Замосьце) з каталікоў—беларусоў Александра сына Кароля Ельскага. Памёр А. Ельскі ў 1916 г., дажыўшы да глыбокай старасьці (82 г.)

Прыяцель беларусоў, любіцель усяго беларускага, добра ведаўшы ня толькі вёску [1]), але і пісьменнасьць і літэратуру беларускую, [2]) ён блізка стаяў да жыўшага ў пры ём В. Дуніна-Марцінкевіча, каторага рукапісы нікаторых нявыдрукаваных твораў і захаваліся ў яго [3]); меў зносіны з другімі беларускімі пісьменнікамі і дзеячамі[4]).

Шмат працаваў ён дзеля падняцьця дабрачыннасьці, разьвіцьця розуму і, наагул, дабрабыту салянскага люду. Дзеля гэтай мэты ён выпускаў популярныя брашуры ў беларускай мове—прозай і вершам; выдаваў больш вядомыя народныя творы, перэкладаў больш цікавыя польскія памятнікі, навэт часткамі друкаваў іх. Шмат яго твораў ня было ў друку.

Мабыць, першай друкаванай яго працай у беларускай мове ёсьць — „Пан Тадэуш",

[1]) У 1861 г. быў судзьзёю ў Ігуменшчыне.

[2]) Глядзі яго артыкул: „Słówko o materyałach, służących do badań gwary, etnografii i literatury białoruskiej"(Chwila, 1886. NN 17—23); тое самае з зьменамі ў „Wielkiej Encykłoped". (VIII. 646—663).

[3]) Глядзі „Swiat Słowianski" (1912. I. 120).

[4]) Пачынаючы з 1864 г. пачаў складаць сабе музэй мейсцов. старажытн. рэчаў, у каторым было шмат уселякіх рукапісаў, а так сама дакумэнтаў (глядзі „Wielka Encykłopedyja" p. Mustrowaņa —„A. Jelski").

русь“, якая да 1920 году утрымалася. Апроч таго, беларускія ксяндзы выдаюць у Вільні сваю каталіцкую газэтку „Крыніца“, дзе больш гавораць аб уніі, ніж аб бэзварнуковым ўводзе беларускай мовы ў касцеле. Там жэ выходзіць яшчэ і яўна полёнафільскі тыднёвік „Беларускае Жыцьцё“. Больш ні ў Вільні, ні ў Городні няма ні воднай беларускай газэты; выдаваўшыеся перад тым-у Городні „Родный Край“ і „Бацькаўшчына“, а ў Вільні „Беларуская Думка“ і „Нежалежная Беларусь“ за вельмі праўдзівыя словы, альбо забаронены ўладай, альбо зачыніліся з поваду „пераводу“ іх кіраўнікоу і супрацоўнікоў з рэдакцыяў у турмы.

У Коўні выдаецца ад верасьня 1919 году ілюстраваная беларуская „Часопісь“, як вестка беларусоў у Літве, а так сама ў беларускіх частках Літоўскай Арміі выходзіць свая газэтка „Варта Бацькаўшчыны“. Ў Рызе беларускімі рэспубліканцамі выдаецца журнал „На чужыне“, а ў Бэрліне выходзяць на нямецкай мові „Весьці Беларускага Прэс-Бюро“. Далей—ні на Украіне, ні ў іншых дзяржавах-беларускіх друкаў німа. Аб лёсі пачатай працы беларускага таварыства ў Кіеві „Зорка“, а так сама аб выдавецкай справі петраградскага таварыства „Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ“, чы маскоўскага выдавецтва „Покліч“ німа ніякіх вестак.

Толькі ў Вені-украінская „Воля“, ў Празе-чешская „Трыбуна“, ў Зальцвэдэлі-украінская часопісь ваеннапалонных „Шлях“ калі-не-калі асьветляюць па-



Палкоўнік
**В. П. АНТОНАЎ.**
Апошні Камандзер 1-шага Беларускага поўка ў Городні, абэзброенага палякамі ў летку 1919 году; ад таго часу лёс палкоўніка неведамы, як неведама, дзе гіне многа лепшых сыноў нашага народу.

паэма Адама Міцкіевіча. (Перэлажыў з польскага на беларускі язык А. І. [5]) Кніга І. Львоў. 1892. 8⁰. 41.). На адвароце загалоўнага лісьціка знаходзім гэткае пасьвячэньне перэкладчыка [6]).

„Працу гэту ахвяруе тлумач ад шчырага сэрца на пажытак братнему беларускаму народу, помня (чы) словы Міцкевіча, сказаныя ім у прадмове да „Пана Тадэуша:“

О калі-б дажыў я той пацехі,
Што-б тая ксёнжка зблудзіла пад стрэхі,
І каб селяне яе ў рукі ўзялі,
Ды як сваю песьнь родну моцна пакахалі“...

У гэтым пасьвячэньні перэкладчык, як відаць, ня зьліве сябе з беларускім народам, але, бязумоўна, мае да яго шчырую любоў, которая асабліва выяўляецца ў яго прадмове да перэкладу. Сказаўшы некалькі слоў аб Мікевічу і аб забытым перэкладзе „Пана Тадэуша“, зробленым В. Дуніным-Марцінкевічам, —ён кажа:

„Чытая(ючы) „Пана Тадэуша“, дарагія беларусы, палюбеце-ж усім сэрцам сваю родную, занядбаную, сьвятую беларускую мову, которая спрадвеку ня толькі была вашай ў сёлах, но ей ужывалі самые даўнейшые монархі краю і іх вяльможы. Ваш старадаўны беларускі язык мусіц варт чагось, калі на яго склад можна ператлумачыць найцаньнейшые поэтычные ўтворы вялікіх пісацелей“.

Перэклад „Пана Тадэуша“, Ельскага бэзумоўна складнейшы і мягчэйшы за перэклад Д.-Марцінкевіча, як гэта можна бачыць з параўнаньня хоць-бы пачатку:

Літва, моя айчызна! Ты здароўю роўна.
Такведе той цябе ацэніць, хто пажыўшы поўна
Цябе утраціў! Цяпер красу тваю я лепей знаю.
І апішу, бо цяжка па табе скучаю.
Найсьвентша Панна, што бароніш Чанстаховы
ясная,

[5]) Гэта звычайныя латынскія ініцыялы яго подпісу.
[6]) Перэклад надрукаваны лацінікай; тут перэдаецца кірыліцаю.

лажэньне беларускага руху, занепад беларускай культуры, няволю беларускага селянства і неўпынную барацьбу беларускіх нацыянальных кіраўнікоў за дзяржаўна-нацыянальнае адраджэньне беларускага народу.

**Я. В—ко.**

## Асновы Часовай Канстытуцыі Літоўскага Гаспадарства.

Ухвалены Літоўскай Дзяржаўнай Радай 4 красавіка 1919 году.

Да таго часу, калі Устаноўчы Сойм вырэшыць пытаньне аб ладзі і канстытуцыі Літоўскага Гаспадарства, Літоўская Дзяржаўная Рада, выяўляючы сувэрэнную волю Літвы (suprema potestas), устанаўляе Дзяржаўную Ўладу на гэтакіх асновах Часовай Канстытуцыі.

I. АГУЛЬНАЯ ЧАСТКА.

§ 1. Вярхоўную Дзяржауную Ўладу ў Гаспадарстві складаюць: а) Прэзыдэнт Гаспадарства, б) Дзяржаўная Рада (Тарыба) і в) Габінэт Міністраў.

§ 2. Вярхоўная Дзяржаўная Ўлада мае свае мейцэпрабываньне ў сталіцы Літоўскага Гаспадарства месьці Вільні.

§ 3. Права законадаўчай ініцыятывы належыць Дзяржаунай Радзе і Габінэту Міністраў.

§ 4. Ўсе Дзяржаўныя крэдыты адпускаюцца законадаўчым шляхам.

§ 5. Ўсе асновы Часовай Канстытуцыі прыймаюцца $^2/_3$ галасоў; яны могуць быць дапоўнены, чы зьменены толькі па запатрэбаваньню $^1/_2$ ўсіх членаў Дзяржаўнай Рады і прыняты $^2/_3$ галасоў.

II. ПРЭЗЫДЭНТ ГАСПАДАРСТВА і ЯГО КАМПЭТЭНЦЫЯ.

§ 6. Пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм і прыме пастанову аб ладзі і канстытуцыі, Прэзыдэнт Гаспадарства выбіраецца Дзяржаўнай Радай.

§ 7. У выпадку сьмерці Прэзыдэнта Гаспадарства, чы немажлівасьці выпаўняць свае абавязкі, яго заступае Старшыня Дзяржаўнай Рады.

§ 8. Прэзыдэнту Гаспадарства належыць спаўняючая ўлада, якую ён праяўляе праз Габінэт Міністраў, адпаведальны перад Дзяржаўнай Радай.

§ 9. Прэзыдэнт Гаспадарства: а) абвещае за сваім подпісам законы і дагаворы з другімі дзяржавамі; б) запрашае Старшыню-Міністра, даручае яму злажыць Габінэт Міністраў і зацьверджае ужэ зложэны; в) зьяўляецца прэдстаўнікам Гаспадарства; г) назначае прэдстаўнікаў і прыймае акрэдытаваных прэдстаўнікаў чужых дзяржаў; д) назначае вышэйшых вайсковых і цывільныхураднікаў Гаспадарства; е) мае ў сваім распараджэньні Літоўскую Армію дзеля абароны незалежнасьці і нетыкальнасьці зямель Літвы і назначае Вярхоўнага Галоўнакамандуючага; ж) склікае і распускае сэсыі Дзяржаўнай Рады.

§ 10. Прэзыдэнту Гаспадарства належыць права амністыі.

---

Сьвеціш у Вострай Браме ўласнай
І сьцеражэш Навагрудак, стары наш горад
жылы".

У гэтых вершах адразу кідаецца ў вочы правільны рытм, што ўласьціва толькі тонічнаму разьмеру, складаючаму прыналежнасьць моваў з рознамесным націскам. Але хоць Ельскі і добра быў знаёмы з рускай літэратурнай мовай (што можна бачыць з частых ухіленьняў яго ад беларускай мовы на карысьць літэратурнага рускага языка), ён усё—такі не адважыўся карыстацца толькі тонічным вершам,—і ў перэкладзе „Пана Тадэуша" нязграбныя сілабічныя вершы пападаюцца часта, прыкладам:

Ты помніш, як ратавала мяне із магілы
Той час, як матулька са сьлязінай...
І я, з немачы паўстаўшы, хоць на слабу ногу,
Бег да тваіх прыстолаў падзякаваць Богу".

Мабыць-жа А. Ельскаму належыць беларускі пэраклад (адно некалькі радкоў) твору Мальчэўскага „Marja", аб чым маецца вестка ў „Przegląd'зе Literackim" (dodatek do „Kraju". 1889. № 7. стр. 12—13), гдзе надрукаваны і два выняткі з гэтага твору.

Рэшта прац Ельскага мае на мэце народна-асьветныя заданьня: гэта — брашуры і асобныя вершы:

а) „Сынок! Расказ з праўдзівага здарэньня. Усім бацьком і дзецям для перастрогі. Падаў А. І. Спб. 1895 року". Гэта — навучаючы верш на тэму (глядз. ст. 5):

Але-ж, ўласьне бацькоў пяшчоты,
Псуюць дужа дзяцей цноты...

Пяшчота доўгачаканага сынка - адынака, ўдыганьне яму на шкоду іншым у сямьі не прынесьлі дабра: хлопчык вырас разбэшчаным і распустай:

Рос сынок, і ад часу
Цягаў матку за касу;
Крыўдзіў сёстры, біў скаціну,
Кожнаму дзіцяці дасьць у сьпіну...

§ 11. Ўсе обвешчаемыя Прэзыдэнтам Гаспадарства акты павінны быць ўзмацованы подпісам Старшыні-Міністра, чы адпаведнага Міністра.

§ 12. У распараджэньні Прэзыдэнта Гаспадарства знайходзіцца Дзяржаўная Печатка Літвы.

III. ЗАКАНАДАЎЧЫЯ ПРАВЫ ПРЭЗЫДЕНТА ГАСПАДАРСТВА.

§ 13. Між сэсыямі Дзяржаўнай Рады, чы ў час іх перэрыву Прэзыдэнт Гаспадарства мае права выпускаць законы, ухваленыя Габінэтам Міністраў.

§ 14. Прэзыдэнт Гаспадарства мае права вярнуць назад у Габінэт ухвалены Габінэтам Міністраў праект закону са сваімі папраўкамі. Тады Габінэт Міністраў разглядае закон другі раз. Калі Прэзыдэнт не знойдзе мажлівым падпісаць другі раз разгледжаны і ухвалены праект закону, тады праект ўносіцца ў Дзяржаўную Раду, і яе сэсыя павінна быць незабаўна склікана.

IV. ДЗЯРЖАЎНАЯ РАДА (ТАРЫБА).

§ 15. Дзяржаўная Рада разглядае і ухваляе законы і дагаворы з другімі дзяржавамі.

§ 16. Ухваленыя Габінэтам Мінсітраў і падпісаныя Прэзыдэнтам Гаспадарства законы не ўносяцца ў Дзяржаўную Раду.

§ 17. Прэзыдэнт Гаспадарства може ўхвалены Дзяржаўнай Радай закон вярнуць назад у Дзяржаўную Раду са сваімі папраўкамі. Тады Дзяржаўная Рада разглядае закон другі раз. Другі раз разгледжаны і ухвалены Дзяржаўнай Радай закон павінен



Гэнерал-лейтэнант
**ФРАНЦІШК ЛЯТУКАС.**
Галоўнакамандуючы Літоўскай Арміі. Радзіўся ў 1876 гаду ў Расіеншчыне, выхаванец Віленскай Ваеннай Школы; ў Вялікай Вайне атрымаў раны і кантузіі, а так сама 4 баевыя награды. У літоўскім руху прыймае учасьцце з 2-гой клясы Палянгенскай гімназіі.

---

Вырасшы, ён стаў лаяць бацькоў:
Стары ня выцерпеў, шэльму—бац!
А ён па твары бацьку—мац!
Старая к ім, а сын за матку...

Давалося бацьком або пакідаць сваю хату, або падаваць на суд:

Зьміцер пісару уткнуў
І судзьдзям кішэні надзьмуў;
Паставіў ім вядро гары,
Так і праігралі стары.

Пасьля гэтага матка скора памёрла, а бацька пашоў жабраваць і так сама недзе памёр; але і сыну не пашанцавала: ён зьбяднеў. Навука адгэтуль такая:

Злые людзі, злые дзеці
Ня ўбачаць дабра на сьвеце,
А па сьмерці ня ім рай —
От якую праўду знай!

б) „Выбіраймася ў прочкі! Скарэй у Томск! Аб тое дабра разьведаў і растлумачыў народу А. І. Друкован ў Піцярбургу 1896 року*)“. Гэта прозаічны артыкул, напісаны проці лёхкадумнага перэсяленьня дзеля нажывы:

„Сорам гэта бачыць, бо ўсё тое смутны знак вельмі, і сэрцо баліць, як падумаеш, што сталося з добрым з натуры народам нашым! Даўней, бывала, кіём ня выгнаў-бы з сяла аднаго чалавека там, куды цяпер на зламаньне карку гатовы ляцець грамадою усёю“.

Наракае аўгар і проціў занядбаньня старасьвецкай адзежы і зьмены яе на новую, крамную, которая не падходзіць да нашага клімату і абыходку. Наагул, ён стараецца падтрымаць любоў да ўсяго роднага (прыкладам, да народных песьняў „тклівых, як маці“), да прасьветы.

в) Ельскаму, як сьведчыць Федароўскі

*) Тая-ж кніжачка перэдрукована ў „Вит. Губ. Вѣд.“, 1896 г. (№№ 84, 86, 87, 90), асобна пад назовам: „Нашы перэсяленцы. Скарэй ў Томск“. Вітэбск. 1896.

быць Прэзыдэнтам падпісан.

§ 18. Дзяржаўнай Радзе належыць права інтэрпэляцый і запытаньняў.

V. ГАБІНЭТ МІНІСТРАЎ.

§ 19. Габінэт Міністраў складае Старшыня-Міністэр.

§ 20. Склад Габінэту Міністраў зацьверджаецца Прэзыдэнтам Гаспадарства.

§ 21. Габінэт Міністраў супольна працуе і супольна адпаведае.

§ 22. Калі Дзяржаўная Рада выкажэ Габінэту Міністраў недаверые, Габінэт павінен падацца ў адстаўку.

§ 23. Старшынёй Габінэту Міністраў зьяуляецца Старшыня - Міністэр, чы замешчыючы яго адзін з Міністраў.

§ 24. Члены Дзяржаўнай Рады, якія ўходзяць у Габінэт Міністраў, не перэстаюць быць членам Дзяржаўнай Рады.

§ 25. Габінэт Міністраў і асобныя Міністры па запатрэбаваньню Дзяржаунай Рады, чы яе Камісыяў павінны даваць патрэбныя ведамасьці і паясьненья.

VI. АСНАЎНЫЯ ПРАВЫ ГРАМАДЗЯН.

§ 26. Усе грамадзяне Гаспадарства, бэз рожніцы рэлігіі, нацыянальнасьцяў, як кабеты, так і мужчыны, зьяуляецца роўнымі перэд законамі. Станавых прывілеяў не істнуе.

§ 27. Гварантуецца нетыкальнасьць асобы, па-



Старшы-лейтэнант
**А. Х. КРАУЛЬ.**
Ваенны Прэдстаўнік Латвійскай Рэспублікі ў Літве.
Радзіўся ў 1897 гаду ў Ковеншчыне; скончыў Александраўскую Ваенную Школу; ў 1917 гаду быў у нямецкім палоні. На сучаснай пасадзі ад жніценя 1919 году.

(Lud Bielaruski. III, 31—33), належыць верш: „Аб жыцьці і сьмерці пьяніцы“:

Людзі ў сьвяткі моляцца Бажочку,
А ён сабе зранку, з чортам у шыночку;
Яго чорны дзеткі, як галавешкі,
А ён пье гарэлку да ўсё строіць сьмешкі.
Яго згніла хата ды й дзіравы стрэхі,
А ён у карчомцы сядзіць для уцехі;
Ўсе прыадзеты у сарочкі, сьвіты,
А на ём каптан латамі падшыты...

Такім чынам апісуецца, як пьяніца даходзіць да жабрацтва. Малюнак выходзіць вельмі жывы і перасьцерагаючы.

г) З гэтаю-ж мэтай напісана брашура „Слово аб праклятай гарэлцы і аб жыцьці і сьмерці пьяніцы. Добраму беларускаму народу на падкрапленьне яго душы і розуму, расказаў прыяцель яго, папячыцель трэзвасьці А. І. Друкована ў Піцярбургу 1900 року“.

д) Ельскаму належыць яшче: „Гутарка аб том, якая мае быць Зямля і Воля сельскаму народу. Праўдзівы абразок жыўцом узяты з цяцерашняга жыцьця вёскі на Белай Русі, даўняй-Крывічызьне. Падаў А. І. Вільня. 1906“. Напісана верш.

Трэба дзівіцца, як моцна заселі ў прэдстаўленьні аўтара крывічанскія традыцыі часоў Я. Чачота і іншых романтыкаў першай палавіны XIX-га веку. У XX веку навука ў гэтым пытаньні зрабіла вялікі крок наперад.

е) Ельскі зьбіраў і хацеў выдаць і народныя творы, сярод каторых былі і штучныя. Сюды належыць брашура: „100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага народу. Сабраў А. І. Ў Вільні 1908 р. „Брашура гэта так сама мае на мэці прасьвету народу. Дзеля гэтага тут пападаюцца паміж іншым такія рэчы, як:“ 99. Рада гаспадаром старога дзеда. 100. Перастрога старога дзеда“.

**Праф. Э. Карскі.**

мешканьня і ўласнасьці, свабоды вызнаньняў, друку, слова, хаўрусоў і сходаў, калі толькі мэта і срэдтвы яе дасягненьня не супярэчаць законам Гаспадарства. Забараняюцца сходы аружных асоб.

§ 28. Ў справах, у якіх Літоўскае Гаспадарства не выдала новых законаў, часова астаюцца тыя, якія існавалі да вайны, калі толькі яны не супярэчаць аснаўным прынцыпам Часовай Канстытуцыі Літвы.

§ 29. У час вайны, а так сама ў выпадку паўстаньня ў Гаспадарстві, чы для упярэджаньня непарадкаў, прыменяюцца выключныя палажэньня, якімі часова абмяжоўваюцца гваранты і грамадзкай свабоды.

## VII. УСТАНОЎЧЫ СОЙМ.

§ 30. Урад Гаспадарства складае і абвешчае закон аб выбарах да Установчага Сойму.

§ 31 Установчы Сойм выбіраецца на падставі агульнага, роўнага простага і патаемнага галасаваньня.

§ 32. Па скончэньню выбараў у Установчы Сойм, ён зьбіраецца ў Вільні ў назначэны Урадам дзень.

§ 33. Установчы Сойм пачынае працу, калі зьбяраецца $^{2}/_{3}$ дэпутатаў.

## VIII. ДЗЯРЖАЎНЫ КАНТРОЛЬ.

§ 34. Дзяржаўны Кантроль сачыць за законным і правідловым ходам заканадаўчай і спаўняючай працы ў справі дзяржаўных даходаў, расходаў і фінансаў, а так сама беражэньня іншай дзяржаўнай маетнасьці.

§ 35. Дзяржаўнаму Кантролю даюць справаздачу ўсе установы Гаспадарства і самаупраўленьні, тыя дабрачынныя установы, якія карыстаюцца дапамогай Гаспадарства і тыя хаўрусы, якія карыстаюцца дзяржаўным крэдытам і гвараптыямі.

§ 36. Дзяржаўнаму Кантролю ва ўселякі час, павінны быць даступны ўсе справаздачы, ўсе кнігі і ўся праца памянёных у § 35 установ.

§ 37. Дзяржаўны Кантроль па свайму пачыну назначае і выпаўняе рэвізыі.

§ 38 Дзяржаўны Кантроль складае асобную галіну Дзяржаўнай ўлады і незалежыць ад Габінэту Міністраў.

§ 39. Дзяржаўнага Контралёра выбірае і назначае Прэзыдэнт Гаспадарства.

§ 40. Дзяржаўны Контралёр па запатрэбаваньню Дзяржаўнай Рады, чы яе камісыяў павінен даць ведамасьці і паясьненьня.

§ 41. Дзяржаўны Кантралёр прымае учасьцьце ў Габінэцэ Міністраў з правам дарадчага голасу.

§ 42. Дзяржаўны Кантралёр за свае пастулкі адпаведае перад Дзяржаўнай Радай і падае ў адстаўку, калі Дзяржаўная Рада выкажэ яму недаверые.

## ЗЬМЕНЫ Ў § § 32 і 33 АСНОЎ ЧАСОВАЙ ЛІТОЎСКАЙ КАНСТЫТУЦЫІ, прынятыя Дзяржаўнай Радай 30 кастрычніка 1919 году.

§ 32. Установчы Сойм зьбіраецца ў мейсцы, на якое ўкажэ Прэзыдэнт Гаспадарова і ў назначэны Прэзыдэнтам Гаспадарства час.

§ 33. Установча Сойм пачынае сваю працу, калі зьбярэцца на аднаго чаловека болей паловы ўсіх выбраных дэпутатаў.



**П. С. ЛЕОНАС.**
Старшыня Вярхоўнай Камісыі на выбарам у Літоўскі Установчы Сойм. Былы Міністэр Справядлівасьці і Ўнутрэных Спраў.
Радзіўся у 1864 гаду ў Марыямпольшчыне; у 1889 гаду скончыў Маскоўскі Унівэрсытет; былы член 2-гой Расейскай Думы; лідэр партыі „Santara“. „Патрыах“ літоўскай палітычнай думкі.

# БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## ІДЗЕ ЛІТОЎСКІ УСТАНОЎЧЫ СОЙМ!

На 14-15 красавіка 1920 году назначэны выбары ў Літоўскі Установчы Сойм.

Бэз спрэчак трэба прызнаць, што разам з выбарамі ў Сойм-падыходзіць апошні а самы адпаведны эгзамін дзеля літоўскіх грамадзян на палітычную дайзрэласьць. Як ведама, закон аб выбарах ў Устаноучы Сойм апрацованы быў Спэцыяльнай Камісыей пры Габінэце М. Слежэвіча, зацьверджан Габінэтам Э. Гальванаўскага, ухвален Дзяржаўнай Радай 30 кастрычніка 1919 г. і падпісан Прэзыдэнтам Гаспадарства 20 лістапада 1919 году.

Закон гэты належыць да дэмакратычнейшых законаў апошніх „гарачых“ часоў. Права выбіраць маюць мужчыны і кабеты, маючыя 21 год.

Каб падгатовіць і правясьці самыя выбары, утворэна Спэцыяльная Вэрхоўная Камысыя па выбарам пад Старшынствам былога Міністра Ўнутраных Спраў П. Леонаса. Гэта Камісыя выдае Закон аб выбарах і інструкцыі да яго на ўсіх мовах: на літоўскай, беларускай, жыдоўскай і польскай, так сама і кірue усёй гэтай справай.

Зацікаўленнасьць у падгатоўцы да выбароў літоўскае грамадзянства выяўляе надта энэргічнае. Ўсюды пішуць і гавораць аб Сойме. У канцы лютага мае быць зьнята дзеля гэтага і ваеннае палажэньне, адменена цэнзура і дапушчэна свабода агітацыі. Літоўскі Сойм вельмі муляе бакі паляком, якія бачаць, што калі Літва будзе мець свой Сойм, то яны ужэ не змогуць лаяць літоўска-беларускіх палітікаў, што Літвою правіць „гурток аматароў“.

Добры „гурток“, калі ён давёў старонку да Устаноўчага Сойму!

Дзеля азнаемленьня з тэрыторыей, на якой павінны былі бы адбыцца выбары, падаем спісак вакругоў, як яны адзначэны ў самым законі.

I вокруг складаюць паветы: Марыямпольскі, Сэйнінскі, Сувалскі і Алітскі з цэнтрам у Марыямполі.

II „ „ Шацкі, Вількавішскі, Ковенскі, м. Коўна і Трокі-Кашэдарскі-з цэнтрам у Коўні.

III „ „ Расіенскі, Таўрогенскі і Кейданскі-з цэнтрам у Расіенах.

IV „ „ Тэльшэўскі, Крэтынгенскі і Мажэйкаўскі-з цэнтрам у Тэльшах.

V „ „ Шавельскі, Біржэўскі і Паневежскі-з цэнтрам у Паневежы.

VI „ „ Ракішскі, Новаалександраўскі,Ількамірскі-з цэнтрам ў Уцянах.

VII „ „ м. Вільня, паветы Віленскі і Сьвенцянскі-з цэнтрам у Вільні.

VIII „ „ Ашмянскі, Лідскі і Воўкавыскі-з цэнтрам у Лідзі.

IX „ „ Белавежскі, Бельскі і Беластоцкі-з цэнтрам у Беластоку.

X „ „ м. Городно, паветы Городзенскі, Сакольскі і Аўгустоўскі-з цэнтрам у Городні.

## СЬЛЕДЫ ЎСЕСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ Ў ДРУКУ.

Міравая вайна, бэзпрымерная ў гісторыі, натуральна парадзіла вялізную літэратуру, якая будзе служыць матэрыялам дзеля будучых гісторыкаў. Апошні момэнт яшчэ не адпаведае бэзстароньняй ацэнцы здарэньняў: яшчэ ўсё надта сьвежа, працэсы, вызваныя вайной, яшчэ твораццца і трудна згадаць іх канэчныя вынікі. Аднак ужэ і цяпер робяццаі пробы разабрацца ў матэрыяле, пакінутым вайной і зарэгістраваць хоць часьць бэзкрайнага ліку літэратурных крыніц. Я магу указаць з літэратуры, якая маецца у маім распараджэньні на пробы ў гэтым кірунку ў нямецкім друку.

Дохтар І. Гольфэльд, обер-лейтэнант рэзэрва, зложыў агляд „Die Deutsche Kriegsliteratur“. Dresden.—(„Нямецкая Ваенная літэратура“. Дрэздэн) нямецкай літэратуры аб вялікай вайне, ў якім разглядзі больш 300 твораў, недатычучы перыадычнага друку—часопісей. Крыніцамі дзеля кнігі п. Гольфельда зьявіліся глаўным чынам агляды ваеннай літэратуры да 1917 года, вядомай выдавецкай фірмы у Нямеччыне—Гінріса; аутар лічыць што ўсе глаўныя друкованыя творы ў гэтым аглядзі ім пералічэны, і разглядзены, і што важнейшыя вайсковыя заданьня асьвечэны.

Апроч гэтай, досіц капітальнай працы, можна указаць яшчэ на брашуры, выданныя у Мюнхене „Хаўрусом імені Дзюрэра“:

1) Kriegsratgeber. 1916. Zwei Ausgaben.

(Ваенны райца. 1916. Два выпускі).

2) W. von-Seidlitz. Das erste Jahr des Kulturkrieges.

(В. фон-Зэйдліц. Першы год вайны культур).

Гэтыя апошныя брашуры зложэны без крытычнай ацэнкі зьяўляюцца прастымі рэестрамі.

Па кнігапісі перыадычнага друку, маючага адносіны да вайны, шмат матэрыялаў дае кніга: R. Hellmann, u. K. Palm. Die Deutsche Feldzeitungen. (Р. Гэльман і К. Пальм. Нямецкія польныя часопісі), ў якой даецца агляд газэт з фронту, вайсковых лісткоў, лістовак, адозваў на рожныя выпадкі, а так сама газэт дзеля палонных немцаў ў непрыяцелеў.

**Праф. Эд. Вольтэр.**

## КРОНІКА.

### Міністэр Беларускіх Спраў у Прэзыдэнта.

У зьвязку з апошнімі выпадкамі ў беларуска-літоўскіх адносінах Міністэр Беларускіх Спраў Я. Варонко 24 студзеня адведаў Прэзыдэнта Літоўскага Гаспадарства. Гутарка цягнулася болей гадзіны. Міністэр Беларускіх Спраў спаткаў вельмі прыхільны прыём і цэнныя дзеля беларусоў дэкларацыі.

### Ангельцы і беларусы.

Начальнік Брытанской Ваенной Місыі ў Літве палкоўнік В. Рован-Робінзон нечэканна адведаў 21 студзеня Міністра Беларускіх Спраў і меў доўгую нараду аб беларускіх ідэалах, сучасным палажэньні, беларуска-літоўскім хаўрусе, польскай акупацыі, апошніх „беларускім пагроме“ ў Менску і т. пад. Дзеля таго, што гэты візыт палкоўніка В. Робінзона быў за дзень да ад'езду яго ў Вільню, пасьля прыезду Брытанскага Прэдстаўніка

Канец гляді на 3-цяй стар. вокладкі.

назад, 31 студзеня Міністэр Беларускіх Справаў ужэ з сваёй стараны адведаў п. Робінзона ў тых самых справах. Адносныя (ў справі аслабаненьня арэштованых палякамі беларусоў) заявы зроблены Міністрам Б. Справаў-Міністру Замежных Справаў.

### Хаўтуры Л. Н. Калугіна.

13 сьнежня 1919 году адбыліся на ковенскіх могілках хаўтуры памёршага 11 сьнежня былога Камэнданта Городзенскага Вокругу, а затым Райцы Міністэрства Беларускіх Справаў Леаніда Калугіна.

На хаўтурох аддалі апошнюю павагу памёршаму: Член Дзяржаўнай Рады і Міністэр Беларускіх Справаў Я. Варонко, ўся яго Канцэлярыя, Член Дзяржаўнай Рады Д. Семашко, шмат беларускіх афіцэраў, як—палкоўнікі: Лаўрэньцьеў, Сізых, Беньяшэвіч ,Сеткоўскі, афіцэры іншых рангаў: Рэшка, Прушакевіч, Казлоў, Яніцкі, Гайдукевіч і многа народу. Вянок з нацыянальнымі стужкамі быў паложан на магілу ад Міністэрства Беларускіх Справаў. Згодна з палажэньнем, якое займаў Л. Калугін, за гробам ішоў пачотны адрад літоўскага войска (беларускае войска ў той мамэнт была па за Коўнай) і хор музыкі. Апусканьне ў магілу адбылося пад трохразовы салют стрэльбаў.

### Уцяклі ў „Швэйцарыю“.

Сярод іншых беларускіх працаўнікоў, уцёкшых і уцякаючых з-пад панаваньня Белага Орла, 20 студзеня, з апаскаю згінуць ад польскіх куль, перэйшлі дэмаркацыйную лінію і прыбылі ў Коўну-беларускі гэнерал Вэнт і афіцэр Гладкі. Гэтыя дзеячы вядомы, як арганізаторы беларускіх частак пад Адэсай, згінуўшых ад бальшэвікоў. Зноў Літва, як у сярэднія сталецьця, робіцца свайго звычаю „Швэйцарыёй“, куды бягуць ад маскалёў і палякаў абаронцы беларускага народу.

### Угодкі беларускага войска ў Літве.

Хаця беларускае войска ў Літве пачало арганізавацца ў сьнежню 1918 году і ў гэтым месяцы маглі бы спраўляцца ўгодкі беларускіх частак, арганізаванных на беларускай тэрыторыі, тут ў ласьне-літоўскай часьці Гаспадарства—беларускае войска пачало зьбірацца 27 лютага 1919 году. З гэтага выпадку наш N-ы Беларускі Батальён 27 лютага будзе сьвяткаваць першыя угодкі, што мае адбыцца вельмі урачыста.

### Батальённае сьвята ў беларусоў.

Батальённым сьвятам у беларускім войску назначаецца дзень Св. Юрага (23 красавіка старога стылю), ў які Батальёну будзье дарован прыгожы нацыянальны штандар.

### Беларускі Клюб у Коўні.

З пачыну відных беларускіх дзеячоў у Коўні-закладаецца Беларускі Клюб з мэтамі, як культурна-прасьветнымі, так і дабрачыннымі і выдавецкімі, а асабліва з мэтамі зьбліжэньня беларусоў з іх прыяцелямі, да якой бы нацыі апошнія не належалі. Беларускі Клюб у Коўні будзе мець свае памешканьне.

### Падзяка.

Міністэр Беларускіх Справаў, обвешчэньнем ад 16 сьнежня 1919 году дзякуе ўсіх тых, хто адазваўся на сьмерць Л. Н. Калугіна, а асабліва пань Дземідаву і Мазэль, якія знайходзіліся пры хворым і даглядалі яго да апошніх мінют жыцьця.

### Сьвятачны вечэр у цэркоўнай школі.

У нядзелю, 29 сьнежня ў ковенскай цэркоўнай школі, у якой абучаецца болей за 70 дзяцей ковенскіх жыхароў не-літвіноў (беларусоў, украінцаў, вялікаросаў і інш.), заходамі а. Мікалая Савіцкага быў зроблены сьвятачны вечэр—„елінка“. Дзеці, найбольшаму з якіх не было 12 годоў, пеялі, дэклямавалі, танцавалі і прэстаўлялі „вершы ў асобах“. У праграмі паважнае мейсцэ занялі і беларускія рэчы: беларускі гімн „А хто там ідзе“, які публіка выслухала стоячы, і дэклямацыя. Вершы пекна чыталі-дзеўчынка Г. Курова—„Жытні колас“ і хлопчык Адв. Карольчук—„У школку“ і „Нёман“. Апроч таго ў праграмі былі літоўскія і украінскія сьпевы і чытаньня. Такі „інтэрнацыяналізм“ ковенскай школы меў вялікі усьпех. Сярод дзяцей беларусоў ёсьць шмат бежэнцаў з Городзенщчыны. Усім амэрыканская місыя загадала даць вопраткі і зрабіць страўню.

## Пачтовая скрынка.

(Глядзі №№ 1, 2 і 3—4).

22. **Цікаваму п. А.** Вы нездаволены, чаму мы не друкуем партрэту „вельмі вядомага беларускага палітыка“ Антона Луцкевіча. Можэм здаволіць Вашу цікавасьць: партрэт гэтага „вельмі вядомага беларуса“ будзе надрукаваны ў № 1 гумарыстычнага выданьня „Дзяга“, якое мае выйсьці ў красавіку г. г.

23. **Мальвіні. З.** Як небудзь прыгатуйце да аказыі, чы прышлеце ў „Часопісь“ на пэўны крэдыт поўныя камплекты „Беларускага Жыцьця“, „Беларусі“ і „Нашай Калеіны“, а так сама „Матчын Дар“ (5 экз.) і „Вольную Беларусь“ за 1917 год.

24. **Сымону.** Вельмі шкадуем, что Вы уляпаліся ў такую брудную гісторыю. Уцякайце хучэй да нас! Вы патрэбны Бацькаўшчыне, не плямце свайго імя.

25. **А. Грыневічу.** Можэм выдаць ўсе Вашыя песьні. Дзеля гэтага чэкаем Вас.

**ВЫДАВЕЦТВА і РЭДАКЦЫЯ: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Справаў.** **КОЎНА. Вуліца Адама Міцкевіча, 13 а.**

## Шануйце і пашырайце беларускую кнігу !

**◎ Чытай і сабе і другім ! ◎ Прачытаўшы не кідай, а падаруй суседу ! ◎ Калі чаго не зразумееў, спытай у Рэдакцыі ! ◎ Ўсюды барані беларушчыну ад абразы і кпінаў !**

### Абвестка.




Коўна. Вількамірская шаса, 41 б.

Загад „Таварыства імя Ф. Скарыны“ вельмі просіць ўсіх нашых землякоў і прыяцелёў дастаўляць нам, калі ў каго акажуцца непатрэбнымі, якія беларускія газэты з Вільні, Менску, Смаленску, чы Рыгі, чы іншыя выданьня на беларускай мове, чы на другіх мовах аб беларусах; а так сама сучасныя расейскія газэты, якія пішуць аб нашай справі, чы старыя і старасьвецкія кнігі (апошнія Загад можэ купіць за грошы, чы абменяць на свае выданьня).

ЗАГАД.

### НОВЫЯ ВЫДАНЬНЯ:

1. „ДЫЯМЭНТЫ БЕЛАРУСКАГА ПРЫГОЖАГА ПІСЬМЕНСТВА“. № 1. Беларускае Выдавецтва „Зорка“. Кіеў. 1919. Кошт 5 руб. 50 кап.

2. ЯЗЭП ВАРОНКО. БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА ДА МІРАВОЙ НАРАДЫ Ў ВЭРСАЛІ. Гістарычна-палітычны нарыс. Коўна. 1919. Кошт 2 рублі. (*)

3. К. ЕЗАВІТАЎ. БЕЛАРУСЫ І ПАЛЯКІ. Дакумэнты і факты з гісторыі акупацыі Беларусі палякамі ў 1918 і 1919 г.г. Коўна. 1919. Кошт 10 марак. (*)

4. Л. ГАРЭЦКАЯ. „РОДНЫ КРАЙ“. Першая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Выданьне Таварыства „Крыніца“. Вільня. 1919. Кошт 4 рублі.

5. МАКСІМ ГАРЭЦКІ. НЕВЯЛІЧКІ БЕЛАРУСКА-МАСКОЎСКІ СЛОЎНІК. Выданьне Таварыства „Крыніца“. Вільня. 1919. Кошт 7 марак.

6. М. ЗАСЕЦКІ. МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ за 10 месяцаў істнаваньня. (І.ХІІ. 1918.—І.Х. 1919.) Кароткі нарыс. Коўна. 1919. Кошт 1 залаты. (*)

7. „НАША ХАТА“. Беларускі Календар на 1920 год. Год І-шы. Вільня. 1920. Кошт 4 рублі.

8. Я. ВАРОНКО. БЕЛАРУСКІ РУХ ад 1917 да 1920 году. Кароткі агляд. Коўна. 1920. Кошт 2 залатых.(*)

9. БЕЛАРУСКІ ШТАНДАР. Новая пачтовая пісулька ў фарбах. Коўна. 1919. Кошт 40 грошы.

Усе выданьня, адзначаныя (*), выданы „ТАВАРЫСТВАМ імя Ф. СКАРЫНЫ“, і набыць іх можна ў Коўні — ў Рэдакцыі „ЧАСОПІСЬ“ — Вуліца Адама Міцкевіча, 13 а; рэштыя можна набыць толькі ў Вільні: Вострабрамская вул., 9, чы Завальная вул. 7, у беларускіх кнігарнях.

## Друкуюцца новыя кнігі:

**1. Беларускія Песьні. 2. Заходняя Беларусь. 3. Вялікодная пісанка. 4. Календар імя Ф. Скарыны на 1920 год. 5. Каманда ў беларускім войску. 6. Статут аб выбарах у Літоўскі Устаноўчы Сойм.**

Друкарня А. Бака і Х. Манкес. Коўна.